**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 17 (733) 24 красавіка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае













**На здымку:** настаяцель Сабора Нараджэння Прасвятой Багародзіцы айцец Сергій Грамыка асвячае велікодныя стравы.
*Фота Зм. Лупача*



## Хрыстос уваскрос!
## Сапраўды ўваскрос!

**Віншуем усіх хрысціянаў са святам Пасхі!**

**Гарадоцкі раён**

# Дэсант на плошчу

■ Станіслаў Раманчук

**У большасці дзяржаў кантынента людзі двойчы ў год восенню і вясной добраахвотна выходзяць на суботнікі, каб прыгожа і ўтульна выглядалі іх населеныя пункты.**

Іншая справа ў нас: і бульбу могуць паслаць бясплатна перабіраць, альбо што-небудзь рабіць у калгасе. Праўда, заробленыя сёлета грошы пойдуць на гуманныя мэты стварэння сучаснага медцэнтра, а на Віцебшчыне частку сабраных сродкаў накіруюць у Гарадок, дзе ўсё ж адбудзецца ў скарочаным фармаце фестываль-ярмарка “Дажынкі-2014”. З гэтай нагоды кіраўніцтва вобласці на чале са старшынёй аблвыканкама А. Косінцам адзелі гумавыя боты і прыбылі ў райцэнтр. Падчас прайшоўшага суботніка яны папрацавалі на добраўпарадкаванні цэнтральнай плошчы імя Леніна і на месцы воінскіх пахаванняў пасадзілі бярозавую алею. На самой жа плошчы пачалі актыўна класці рознакаляровую плітку, калі пацяплела. Большасць жа гараджан выйшлі на ўскраіну горада, каб навесці парадак пасля правядзення меліярацыйных работ на закінутай тэрыторыі. Да свята працаўнікоў вёскі тут прывядуць у парадак больш 50 км дарог, пастараюцца адрамантаваць шэраг асноўных аб’ектаў жыццядзейнасці раёна. Жыхароў райцэнтра парадавала, што да “Дажынак” павінны паспець абнавіць іх Дом культуры і кінатэатр, які доўга стаяў зачынены. Узнікла, праўда, праблема са стварэннем тут біятлоннага цэнтра з-за адсутнасці фінансаў. Аднак кіраўніцтва вобласці спадзяецца, што кіраўнік дзяржавы падтрымае гатовы праект пабудовы лыжаролернай трасы са стрэльбішчам. Размовы пра ФАК з басейнам неяк заціхлі з-за няпростай фінансавай сітуацыі ў краіне

**Пастаўскі раён**

# Завод будзе жыць

■ Кастусь Александровіч

**У прамысловых прадпрыемстваў, як і ў людзей, бываюць розныя перыяды росквіту і заняпаду.**

Вось і ў гарпасёлку Лынтупы, што ў Пастаўскім раёне, на асноўным прадпрыемстве, якое дзейнічала цэлае стагоддзе, не паспелі парадавацца падвядзенню прыроднага газу, як здарылася летась бяда. Год назад падчас правядзення інвентарызацыі там адбыўся выбух у галоўным брагарэктыфікацыйным цэху. Гэта трагедыя забрала жыццё маладой спецыялісткі з бухгалтэрыі, некалькі чалавек атрымалі цяжкія траўмы. А пяціпавярховы цагляны будынак аказаўся ў аварыйным стане з-за вялізнай трэшчыны, вытворчасць перастала дзейнічаць і адсюль былі вымушаны звольніцца больш ста работнікаў. Аднак галаўное прадпрыемства Віцебскі лікёра-гарэлачны завод “Прыдзвінне”, да якога далучылі лынтупчан 4 гады назад, пабудуе неўзабаве новы цэх. Ужо ў маі пачнуцца работы па разборы пашкоджанага будынка, а на новай пляцоўцы па праекце, які распрацаваны, паўстане сучасная вытворчасць прадукцыйнасцю да 3-х тон спірту экстра-класу ў суткі, што на тону болей, чым было да выбуху. З даўніх часоў у Лынтупах умелі яго вырабляць, а па сваіх якасцях мясцовы спірт прызнаваўся адным з найлепшых у Беларусі. Лепшыя гатункі айчыннай гарэлкі на экспарт выраблялiся з сыравіны на Пастаўшчыне. Дарэчы, цяпер на прадпрыемстве ў гарпасёлку ў штаце меней 20 чалавек, але дырэкцыя занялася закупкамі найноўшага абсталявання. Тут разлічваюць, што на спіртзавод вернуцца ранейшыя кваліфікаваныя работнікі, якія пакуль працуюць па-за межамі пасёлка.

**Талачынскі раён**

# Завадчане асвоілі ... бульбу

■ Чэслаў Якубовіч

**У гэтым годзе незвычайная вясна паставіла не толькі тэмпературныя рэкорды стагоддзя, але і прывяла да вельмі ранняга старту пасяўной.**

На месяц раней звычайнага выехалі ў поле і працаўнікі Талачынскага кансервавага завода. Гэта прадпрыемства апошнім часам стала вядучай гаспадаркай Віцебскай вобласці па вытворчасці спрадвечнага айчынннага прадукта – бульбы. Дзякуючы гэтай культуры завод жыве і нядрэнна сябе адчувае на спажывецкім рынку, пабудаваў два сучасныя бульбасховішчы на 24 тысячы тон клубняў. Яны там выдатна захоўваюцца, а сёлета насенная бульбачка разыходзілася, як гарачыя піражкі зімой, асабліва ў суседняй Расіі. У гэтым годзе прадпрыемства прыступіла да пасадкі ранніх і сярэднясплых гатункаў “другога хлеба” нават 10 красавіка. Як і летась, пад гэту культуру, самую прыбытковую для завода, адвялі самыя вялікія ў рэгіёне плошчы, нават 820 гектараў. Да працы ў полі прыступілі чатыры новыя пасадачныя агрэгаты АКПК, выраблены ў сталіцы па галандскай ліцэнзіі з прадукцыйнасцю пасадкі бульбы на 8 гектарах за дзень. Акрамя гэтага завадчане маюць і яшчэ 6 бульбасаджалак і тэмпы пасадачных работ вельмі высокія. Людзі ў полі вельмі стараюцца, бо за змену можна зарабіць амаль па мільёну рублёў. Арганізавалі і двухразовае каларыйнае гарачае харчаванне, а бульба гатунку “Рэд Скарлетт” штогод дае высокую ўраджайнасць звыш 300 цэнтнераў з гектара.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 24.04.14 | | | | Пятніца 25.04.14 | | | | Субота 26.04.14 | | | | Нядзеля 27.04.14 | | | | Пн.28.04.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +5 | +12 | +8 | +4 | +7 | +14 | +10 | +5 | +10 | +16 | +12 | +9 | +12 | +18 | +14 | +12 | +12 | +17 |
| Ціск | 756 | 758 | 758 | 757 | 757 | 756 | 754 | 753 | 752 | 752 | 752 | 750 | 750 | 748 | 747 | 746 | 744 | 743 | 743 |
| Вільготнасць | 44 | 50 | 27 | 45 | 61 | 63 | 33 | 59 | 71 | 69 | 32 | 52 | 60 | 66 | 29 | 48 | 52 | 71 | 40 |
| Вецер м/сек | 4 С-В | 5 С-В | 5 В | 2 В | 1 В | 2 Ю-З | 1 В | 1 С | 1 Ю | 1 Ю | 1 В | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю |

# Аб самым надзённым

## УТРЫМАЦЬ ПРАГНОЗНЫ РОСТ ЦЭН І СЁЛЕТА Ў БЕЛАРУСІ НЕ АТРЫМАЕЦЦА З-ЗА НЕЭФЕКТЫЎНАЙ ЭКАНОМІКІ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Невыпадкова загаварылі аб увядзенні ў бюджэт наступнага года спецыяльных кампенсацый для беднякоў на прадукты. Дзіўна, што яшчэ наш беларускі рубль працягвае трымацца, хоць золата-валютныя рэзервы Беларусі зніжаюцца і апусціліся ніжэй 6 мільярдаў долараў. Адзінае, што можа дапамагчы, - неўзабаве абяцаны расійскі крэдыт у памеры 1,5 мільярда.**

З кожным днём беларусам становіцца жыць крыху “весялей”, бо і зімовыя халады скончыліся, а ў паўсядзённым жыцці ўсё так прадказальна і цягнецца гадамі. Вось і напярэдадні светлага свята Вялікадня – пасхі Хрыстовай па краіне бадзёра прайшоў традыцыйны суботнік. Ён яшчэ не паспеў пачацца, а тэлеканалы ўжо падлічылі, што выйшлі папрацаваць амаль 3,3 мільёны суайчыннікаў, а нібыта заробленыя на навядзенні парадку грошы яшчэ і на мясцовых суботніках, (асабліва любяць арганізоўваць у тым жа Глыбокім), пойдуць на добрыя справы.

Перыядычна кіраўнік дзяржавы ездзіць у рэгіёны. Вось і днямі ў Слуцку ён пабачыў такі “поўны бардак”, што зноў загадаў распачаць шэраг крымінальных спраў і ў сваёй манеры вышэйстаячым чыноўнікам даў даручэнні “вылізаць” усё да восені “імем рэвалюцыі”. Усіх вінаватых было таксама загадана пасадзіць у камеры, карміць іх там гнілым мясам і не выпускаць адтуль, пакуль не кампенсуюць страты. Праўда, ёсць шэраг важнейшых сфер жыцця, якія ніяк не паддаюцца падобным камандам і дырэктывам. Пад цяжарам існуючых праблем беларускія ўлады вымушаны былі пайсці ўжо ў пачатку красавіка на карэктыроўку гадавога прагнозу інфляцыі-2014.

Ужо відавочна не толькі спецыялістам, але і большасці насельніцтву, што айчынная эканоміка ўсё болей праяўляе сімптомаў нездароўя. Кіраўніцтва Беларусі зацвердзіла прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця на гэты год з параметрам інфляцыі не вышэй 11 %. Нагадаем, што летась падобны прагнозны паказчык 12 % праваліўся і спыніўся на ўзроўні 16,5 %. Аднак ужо ў студзені-сакавіку інфляцыя зноў стала шалёнай і глава Нацбанка Н. Ермакова вымушана была заявіць, што яе новы прагноз на канец снежня скарэктаваны да 17 %. А гэта азначае, што большасці з нас прыйдзецца яшчэ болей зацiснуць паясы і рыхтавацца да новых цяжкасцей.

Самае сумнае, што ўлады абяцаюць адкрыта большасць цэн зрабіць “яшчэ болей свабоднымі”. Ды і дагэтуль у нас з пачатку года адчувальна падаражэла харчаванне, на 6,2 %. Для людзей былі адчувальнымі (на 20 %) рост камунальных плацяжоў, праезду ў грамадскім транспарце (на 23,3 %). Потым на трэць падаражэлі чыгуначныя білеты, сталі даражэйшымі і міжгародныя аўтобусныя перавозкі. А пасля адмены максімальных адпускных цэн на ялавічыну і свініну і зніжэння да мінімуму спісу сацыяльна значных тавараў звычайныя прадукты харчавання для бяднейшых слаёў насельніцтва стануць раскошай.

Невыпадкова загаварылі аб увядзенні ў бюджэт наступнага года спецыяльных кампенсацый для беднякоў на прадукты. Дзіўна, што яшчэ наш беларускі рубль працягвае трымацца, хоць золата-валютныя рэзервы Беларусі зніжаюцца і апусціліся ніжэй 6 млрд. долараў. Адзінае, што можа дапамагчы, - неўзабаве абяцаны расійскі крэдыт у памеры 1,5 млрд. Аднак і рускім цяпер цяжка на фоне ваеннага псіхозу і з’яўлення на ўсходзе Украіны добра падрыхтаваных і ўзброеных “зялёных чалавечкаў” ва ўніформе з каларадскімі чорна-жоўтымі стужачкамі. Крэмль гуляе рызыкоўна, па буйнаму, пуцінскім стратэгам, падобна, напляваць на тое, што болей 16 млн. расіян за рысай беднасці.

Сабе ж расійскія правіцелі не пасаромеліся падняць заробкі амаль у 3 разы. Таксама адбыўся абвал нацыянальных валют рубля РФ, тэнге Казахстана і яшчэ болей украінскай грыўны. У нас будуць курс нацвалюты трымаць, аднак Нацбанк аб’явіў аб намерах забараніць болей банкам прадастаўляць крэдыты фізічным асобам без прадастаўлення даведак аб даходах. Даходаў жа ў беларусаў становіцца ўсё меней, паколькі ў пачатку месяца 215 прадпрыемстваў і арганізацый (фактычна з іх 80 % калгасы) мелі даўгі перад сваімі работнікамі па выплаце зарплаты.

Праблемы растуць як снежны ком, раз ёсць такая запазычанасць. У парламенце міністр працы і сацабароны Беларусі М. Шчоткіна прызналася, што за апошнія 15 месяцаў ужо 4700 разоў працаўнікам затрымліваліся заробкі. Ад нашай праслаўтай стабільнасці мала што засталося, растуць эканамічныя цяжкасці. І невыпадкова сталі гаварыць аб магчымым нават калапсе айчыннай пенсійнай сістэмы. Праўду стала цяжка замоўчваць, бо ў пачатку года ў Фонд сацабароны не паступіла больш 312 млрд. рублёў узносаў, раней такога не было. Сума даўгоў вялікая, таму і вырашылі штрафаваць за такія правіннасці наймальнікаў штрафамі ад 106 да 455 долараў у эквіваленце, да 30 базавых велічынь. Аднак гэта не вырашыць праблему, пакуль беларускія склады перапоўнены непрададзенай прадукцыяй.

## Дзень за днём

**У І-м квартале золатавалютныя рэзервы краіны скараціліся яшчэ на 1 мільярд долараў. У пачатку месяца інфляцыя ў РБ склала ўжо 4,9 %. У Беларусі ўвялі прызыў на службу ў рэзерве і вясной, а тэрмін службы і прызыўны ўзрост да 27 гадоў мяняць не будуць. З 2015 года насельніцтва стане поўнасцю аплочваць газ і электраэнергію. Беларусы зноў сталі скупляць валюту, толькі ў сакавіку на 87,2 мільёна долараў болей купілі, чым прадалі. Беларускія геолагі пачалі пошукі сланцавай нафты. Беларуская чыгунка часова спыніла продаж білетаў на цягнікі ў Крым з 27 мая. Падчас акцыі "Тыдзень лесу-2014" беларусы пасадзілі 70 млн. новых дрэў. На трох тэлеканалах БТ пакажа ў прамым эфіры ўсе матчы чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Генсек НАТА А. Расмусен зноў папярэдзіў Расію, што любое ваеннае расійскае ўмяшанне ва ўнутраныя ўкраінскія падзеі можа абярнуцца для РФ гістарычнай памылкай.

**Іспанія.** Пасля сямігадзінных дэбатаў парламент краіны прагаласаваў супраць правядзення рэферэндуму аб незалежнасці аўтаномнага краю Каталоніі.

**Расія.** Генеральны пракурор РФ Ю. Чайка заявіў, што В. Януковіч – "паўнацэнны" легітымны прэзідэнт, злачынстваў ён не рабіў і таму няма падстаў выдаваць яго Украіне.

**Германія.** Спецыялісты Deutsche Bank спрагназавалі хуткае падзенне да 80 долараў цэн за барэль нафты з-за перанасычэння яе на рынку, абвал будзе катастрафічным найперш для Расіі.

**Расія.** Эканоміка краіны дэградыруе, колькасць людзей за рысай беднасці перавысіла з пачатку года 16 мільёнаў чалавек, ПАСЕ асудзіла дзеянні рускіх у дачыненні Украіны.

**Польшча.** Экс-прэзідэнт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Лех Валенса заявіў, што свет хутка па-мужчынску адкажа на нахабства Расіі, а У. Пуціна будзе судзіць суд у Гаазе.

**Казахстан.** Віцэ-прэм'ер урада Б. Сагінтаеў абверг чуткі аб хуткім пераходзе краіны з РФ і Беларуссю на адзіную валюту алтын, гэта працэдура вельмі далёкай перспектывы.

**Японія.** Урад краіны перадумаў адмаўляцца ад атамнай энергетыкі і вырашыў аднавіць дзейнасць спыненых АЭС пасля праверкі стану бяспекі атамных станцый.

**КНДР.** Пасля знішчэння асабіста з агнямёта новага "ворага народа" – міністра грамадскай бяспекі лідар краіны Кім Чэн Ын стаў яшчэ і старшынёй Дзяржкамітэта абароны.

**Расія.** На датэрміновых выбарах мэра Новасібірска склалася ўнікальная сітуацыя: перамог кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі, камуніст Анатоль Локаць (43,75 % галасоў).

**Латвія.** Нацыянальны савет па электронных СМІ за прапаганду вайны і нянавісці адключыў пакуль на 3 месяцы трансляцыю праграм тэлеканала "Расія", як і ў Літве.

**Літва.** Услед за забаронай украінскай малочнай прадукцыі Расспажыўнагляд закрыў свой рынак для мяса і мясапрадуктаў з Літвы, Латвіі і Польшчы па палітычных матывах.

**Расія.** Суд Санкт-Пецярбурга пастанавіў закрыць праваабарончы антысталінскі цэнтр "Мемарыял", спынілі пуцінская ўлады і вяшчанне радыёстанцыі "Голас Амерыкі".

**ЗША.** Пры спробе ўстанавіць сусветны рэкорд зацяжнога масавага скачка ў штаце Арызона трагічна загінула вопытнейшая нямецкая парашутыстка Дзіана Пэрыс.

**Азербайджан.** Па 19 відах спорту зацвердзілі правядзенне ў сталіцы краіны Баку І летніх Еўрапейскіх гульняў, з іх у 8-мі разыграюць пуцёўкі на Алімпіяду-2016 у Бразіліі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Пасля Крыму, папярэдзіў палітолаг Андрэй Ягораў, Крэмль будзе яшчэ мацней ціснуць на Беларусь, каб яна прадала РФ актывы цікавячых рускіх прадпрыемстваў.

**Слуцк.** Падчас наведвання мясцовых льнозавода і мясакамбіната А. Лукашэнка моцна разгневаўся і загадаў распачаць крымінальныя справы за безгаспадарчасць.

**Мазыр.** Па зваротах расійскіх кампаній канцэрн "Белнафтахім" не прыняў рашэнне прадаць акцыі мясцовага НПЗ, гэта ў кампетэнцыі вышэйшага кіраўніцтва Беларусі.

**Мінск.** На фоне пагаршэння адносін Расіі з Захадам А. Лукашэнка чамусьці пацвердзіў, што кожны свой палітычны крок ён узгадняе з Крамлём, у інтарэсах "роднага брата".

**Астравец.** Работы па ўзвядзенні другога энергаблока Беларускай АЭС апярэджваюць графік на 6-8 месяцаў, да канца года на будаўніцтва будзе патрачаны амаль 1 мільярд долараў.

**Фаніпаль.** Да канца года швейцарска-беларускі завод "Штадлер Мінск" выпусціць першыя 3 электрычкі, далей яго магутнасці павялічацца да 18 цягнікоў Fllirt і Kiss у год.

**Магілёў.** Былога намесніка старшыні суда Кастрычніцкага раёна горада Магамеда Умарава асудзілі на 14 гадоў турмы за атрыманне хабару ў суме 2,5 тысячы долараў.

**Старобін.** Экс-дырэктара мясцовага лясгаса Ф. Лісіцу знялі з пасады 1-га намміністра лясной гаспадаркі РБ, яму пагражае 10 год турмы за ўзвядзенне катэджа за дзяржаўны кошт.

**Мінск.** Беларуская чыгунка атрымала трэці 3-вагонны польскі дызель-поезд PESA на 145 месц для сядзення, з мая яны пачнуць рэгулярны рух паміж сталіцай і Вільнюсам.

**Лельчыцы.** Падчас магутнай навальніцы а палове трэцяй ночы маланка запаліла жылы дом у райцэнтры, людзі паспелі яго пакінуць, пажарныя хутка справіліся з агнём.

**Ваўкавыск.** Пася выхаду на волю палітвязень, ветэран вайны ў Афганістане М. Аўтуховіч пацвердзіў, што ў турме № 1 Гродна вельмі шмат людзей захварэлі туберкулёзам.

**Ліда.** Адзін з вядучых бровараў Беларусі "Лідскае піва" па кантракце з нямецкімі калегамі пачаў выпускаць па арыгінальнай баварскай тэхналогіі славутае піва Warsteiner.

**Лоеў.** На трасе на Рэчыцу моцна п'яныя рускія са стрэльбамі на джыпе ўцякалі ад ДАІ, пратаранілі іх службовы аўтамабіль, іх пакаралі штрафамі, забаранілі ўезд у РБ на год.

**Мінск.** На НВЦ "Белэкспа" і яшчэ на двух пляцоўках адкрылася для гасцей чэмпіянату свету па хакеі буйнейшая выстава сучаснага айчыннага мастацтва "Avant-gARTe".

# Нацбанк рыхтуе беларусам сюрпрызы




■ БелаПАН

**Нацыянальны банк Беларусі рыхтуе да падпісання некалькі прававых дакументаў, якімі будуць унесены значныя змяненні ў частцы правядзення наяўных і безнаяўных плацяжоў. Пра гэта паведаміла начальнік упраўлення развіцця банкаўскіх плацежных картак і электронных грошай Нацыянальнага банка Людміла Стэфановіч 17 красавіка ў Мінску на канферэнцыі «Інавацыі. Банкі ».**

Па словах Стэфановіч, першае новаўвядзенне тычыцца таго, што з 1 студзеня 2015 года банкі будуць эмітаваць толькі чыпавыя пластыкавыя карткі. На нацыянальную аплатную сістэму « Белкарт» гэтае правіла распаўсюдзіцца з 1 студзеня 2016 года.

Пры гэтым карткі з магнітнай паласой працягнуць сваё хаджэнне ў Беларусі яшчэ на працягу пяці гадоў, аднак новыя будуць выпускацца толькі з чыпам, падкрэсліла прадстаўнік Нацыянальнага банка.

Па словах Людмілы Стэфановіч, яшчэ адно новаўвядзенне, якое плануе Нацыянальны банк, гэта ўвядзенне максімальнага парогавага значэння пры разліках наяўнымі грашыма. Мяркуецца, што абмежаванне будзе дзейнічаць на ўзроўні 1.000 базавых велічынь.

«Гэта значыць, за суму звыш 1.000 базавых велічынь прыйдзецца расплачвацца толькі ў безнаяўнай форме. На сённяшні момант гэта будзе фактычна 15 тысяч даляраў у эквіваленце », - адзначыла прадстаўнік Нацбанка і ўдакладніла, што сёння яшчэ вырашаецца пытанне, будзе абмежаванне разлікаў наяўнымі складаць 130 або 150 мільёнаў рублёў.

Таксама будуць зменены ў парадак карыстання электроннымі грашыма, дзе будзе зніжаны ліміт разліку без абавязковай ідэнтыфікацыі карыстальніка.

«Усё-ткі сума грашовых сродкаў, якая ідзе з дапамогай разлікаў электроннымі грашыма без ідэнтыфікацыі асобы, будзе абмяжоўвацца. Гэта тычыцца не толькі нашай краіны, гэта міжнародная практыка. Гэта неабходна для таго, каб ідэнтыфікаваць, хто, куды і ў якую суму пералічвае грошы. Я думаю, што ў бліжэйшы час у нас таксама будуць змены ў плане звароту электронных грошай з пункту гледжання памянянсіня сумы, якая павінна ідэнтыфікавацца. Сёння гэта 1.000 базавых велічынь, і, верагодна, гэты парог будзе рэзка зніжаны», - сказала Людміла Стэфановіч.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З пачатку года ў вобласці стратнымі сталі 220 прадпрыемстваў і арганізацый, альбо 20,9 % ад агульнай колькасці, з іх найбольш – трэць у прамысловасці.

**Гарадок.** У скарочаным фармаце ў раённым цэнтры ўсё ж вырашылі правесці апошнія ў РБ "Дажынкі", тут здалі першы аб'ект фестывалю-ярмаркі кафэ "Гараджанка".

**Орша.** Фірма "Праметэй" пачала аддзелачныя работы на самай сучаснай у краіне кандытарскай фабрыцы "Салодкая страна" з абсталяваннем з Англіі, Аўстрыі, Германіі.

**Полацк.** Спецыялісты Дзяржаўнага кантролю высветлілі, што да 1 ліпеня не ўдасца здаць 2 новыя жылыя дамы ў гэтым горадзе і 9-павярхоўку ў Наваполацку, у вобласці 5 доўгабудаў.

**Віцебск.** З-за вельмі складанага фінансавага становішча мясцовы ДБК спыніў будаўніцтва жылля ў Смаленску і не мае планаў болей працаваць у Расіі, не загружаны і завод КПД.

**Глыбокае.** Пераможцам абласнога этапа нацыянальнага конкурсу прафесійнага майстэрства "Настаўнік года-2014" стала педагог СШ № 3 Святлана Мацулевіч.

**Руба.** Рачны порт "Віцебск" пачаў новы сезон навігацыі па Заходняй Дзвіне, аднак будаўнікі і дарожнікі яшчэ не разлічыліся на 2 мільярда рублёў за перавозкі грузаў летась.

**Дуброўна.** Пасля выхаду на рынак Кітая мясцовы льнозавод, адзіны з 14 па вобласці, працуе ў 3 змены да трасты новага ўраджаю, пазбавіўся страт, іншыя летам стаяць.

**Віцебск.** Камітэт Дзяржаўнага кантролю выявіў, што ў сакавіку 14 суб'ектаў гаспадарання не выплацілі 5,5 мільярдаў рублёў заробкаў за студзень, аштрафаваў 93 кіраўнікоў за даўгі.

**Лепель.** Раніцай ля вёскі Забаенне на трасе М3 на Віцебск вадзіцель аўтамабіля ГАЗ зляцеў у кювет і ўрэзаўся ў дрэва, яго дэблакіравалі выратавальнікі, даставілі ў ЦРБ.

**Орша.** Да 10 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці пагражае аднаму з намеснікаў главы раёна за перавышэнне ўлады і лабіраванне інтарэсаў фірмы яго нага сына.

**Лепель.** Падчас чарговай акцыі-тыдзень лесу "Пасадзі дрэва на мірнай зямлі" мясцовы лясгас заклаў памятную алею ў гонар Героя Савецкага Саюза Івана Ярашова.

**Шуміліна.** Днём паблізу вёскі Мазекі 40-гадовы вадзіцель з горада Полацка спрабаваў на аўтамабілі "Ніcан" зрабіць абгон, урэзаўся ў сустрэчную фуру і загінуў на месцы дарожна-транспартнага здарэння.

**Паставы.** З аншлагам прайшлі ў Палацы культуры два канцэрты суперзоркі эстрады, заслужанай артысткі РФ Алены Варабей, перш тут жартаваў яе калега С. Драбаценка.

**Віцебск.** Новы Патрыяршы экзарх усёй Беларусі Мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі Павел ва Успенскім саборы правёў набажэнства і пастрыг у манахі інакаў Мікалая і Феакціста.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# У Глыбокім усталявалі скульптурную групу «Ісус і самарыцянка»




# Біскуп Алег Буткевіч правёў сваю першую прэс-канферэнцыю

■ Зміцер Лупач

**Яна адбылася ў Вялікі чацвер 17 красавіка ў віцебскай катэдры.**

На сустрэчы прысутнічалі прадстаўнікі як дзяржаўных, так і незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

Біскуп Алег Буткевіч распавёў пра гісторыю Віцебскай дыяцэзіі, якая сёлета адзначыць сваё 15-годдзе, паведаміў пра цікавыя падзеі, якія адбудуцца ў касцёльным жыцці Віцебшчыны на працягу гэтага года, а таксама адказаў на пытанні журналістаў.

Напрыканцы сустрэчы біскуп Алег павіншаваў усіх хрысціянаў з надыходзячымі велікоднымі святамі.

Ксёндз Алег Буткевіч атрымаў біскупскае пасвячэнне тры месяцы таму. Гэта самы малады біскуп Беларусі, якому 41 год. Як сказаў сам святар, у гэтым ёсць як свае мінусы, так і плюсы. Сярод плюсаў святар адзначыў сваё імкненне да дзейнасці на карысць касцёла ў Беларусі, чаму павінна спрыяць яго маладая энергія.

На пытанне карэспандэнта нашай газеты, ці плануецца ў Глыбокім пабудаваць другі каталіцкі храм, як тое плануецца ў Паставах, біскуп Алег адказаў так:

– У Паставах гэта ініцыятыва зыходзіла не ад нас, а ад саміх вернікаў. У Глыбокім пакуль заканчваецца будаўніцтва плябаніі. Але калі на тое будзе Божая воля і жаданне вернікаў, другі храм у Глыбокім можа быць пабудаваны. Тым больш, што ў Беразвеччы ён быў.



**На здымку:** біскуп Алег Буткевіч з ксяндзом Віктарам Місевічам на прэс-канферэнцыі. *Фота Змітра Лупача*

# “Калі хоць адзін чалавек прыйдзе дадому цвярозы, гэта ўжо вынік…”




**23 красавіка споўнілася 10 гадоў з таго моманту, як у Глыбокім узнікла група Ананімных алкаголікаў “Кропка адліку”. З гэтай нагоды мы пагутарылі з яе прадстаўнікамі.**

*- А адкуль узнік гэты рух Ананімных алкаголікаў? І, наогул, што гэта такое?*

Гэты рух узнік у ЗША ў 1935 годзе. Гэта садружнасць, якая аб’ядноўвае жанчын і мужчын, якія дзелюцца сваім вопытам і сіламі, каб дапамагчы сабе і іншым кінуць піць. Адзіная ўмова для ўступлення ў гэту садружнасць – цвёрдае жаданне кінуць піць.

Бо ніхто іншы не можа зразумець алкаголіка, як толькі такі самы алкаголік. Адным словам, каб вылечыцца, алкаголіку патрэбен іншы алкаголік. Спецыялістаў у нас такіх не рыхтуюць, такога вузкага профілю, якія і ёсць, тыя ведаюць гэту праблему павярхоўна.

*- Але шмат хто наогул не лічыць гэта хваробай?*

- Ну, так, па сённяшні дзень ёсць шмат такіх людзей. Хаця яшчэ ў 1956 годзе Усясветная арганізацыя аховы здароўя прызнала алкагалізм хваробай. Гэта хвароба цела, розуму і душы. Хаця цела тут церпіць найменш, яно мае толькі наступствы ўжывання алкаголю – язвы, цыроз і так далей. А так, што: чалавека вывелі з запою, і цела вызвалілася. З розумам працуюць псіхолагі, псіхіятры. Душой жа займаюцца святары. Але ж ёсць шмат атэістаў…

А вось на тое, як жыць далей без шклянкі, як сказаць не сваім шкляным сябрам, амаль ніхто не ўдзяляе ўвагі. А гэтыя прычыны часта ідуць з дзяцінства, у чалавека былі нейкія праблемы, і ён вырашыў іх з дапамогай алкаголя або наркотыкаў.

Але ж бывае не толькі хімічная залежнасць, ёсць яшчэ і псіхічная. Вось зараз пайшла гульнявая залежнасць, камп’ютарная…

Згодна са статыстыкай, 20% насельніцтва мае схільнасць да гэтай хваробы, да гэтай залежнасці. А далей залежыць ад абставінаў, у якія трапляе чалавек, ад сям’і, ад працоўнага калектыву. Некаторыя людзі выходзяць на пенсію і ад адзіноты пачынаюць піць.

*- А як пачынаўся рух АА ў Глыбокім?*

Са споведзі, са шчырай споведзі, калі ксёндз Кшыштаф Мікалайчык сказаў, што ёсць рэкалекцыі для тых, хто жадае кінуць піць, якія праходзяць два разы на год у Баранавічах. Там ёсць і асобныя курсы для новых сяброў, дзе іх знаёмяць з праграмай “12 крокаў”, з рухам АА. Потым было інтэрв’ю ў газеце “Вольнае Глыбокае”, пачалі прыходзіць людзі, і так за дзесяць год у нас пабывала каля ста чалавек. Не ўсе, праўда, у нас засталіся, але тыя, хто засталіся, ужо ад некалькі месяцаў да некалькі гадоў жывуць нармальным жыццём. Яны аднаўляюцца на працы, аднаўляюцца іх сем’і.

*- А дзе вы збіраецеся?*

Кожную гадзіну ў нядзельнай школе пры кляштары па вуліцы Савецкай, 5. Чаму там, бо касцёл першы працягнуў руку дапамогі і прадаставіў нам памяшканне за сімвалічную арэндную плату. Бо рух АА – гэта самастойны рух, які не звязаны ні з якімі рэлігійнымі і палітычнымі арганізацыямі. Мы займаемся толькі сваёй праблемай. Гэта ніякая не секта, бо касцёл або царква тады не прадстаўлялі для гэтага памяшканняў. Вось у Мінску, напрыклад, шмат якія групы АА збіраюцца пры праваслаўных цэрквах.

*- А ў Глыбокім існуе адна група АА?*

Зараз мы пашырыліся, ужо некалькі год існуе другая група ў вёсцы Удзела.

Шмат хто не хоча ісці, што, маўляў, тут каталікі збіраюцца. Але, калі чалавек чагосьці не хоча рабіць, то шукае прычыны. Мы, яшчэ раз паўтару, не звязаныя з рэлігіяй. Прадставіла б памяшканне праваслаўная царква, збіраліся б там, прадставіла б бальніца, збіраліся б у бальніцы.

Калі чалавеку, напрыклад, баліць зуб, і ён ідзе ў аптэку, а там яму кажуць: няма беларускага аналгіну, толькі індыйскі ёсць. Чалавек жа не ідзе дадому мучыцца далей, а купляе тое, што ёсць. Так і тут. Калі чалавек не хоча змагацца са сваёй хваробай, ён знойдзе тысячу прычын, каб гэтага не рабіць.

Або кажуць, што праграма амерыканская, гэта не для нас…

*- А што, ёсць і такія?*

Ну так, ёсць. Хаця амерыканцы больш законапаслухмяныя, яны імкнуцца выконваць усе прадпісанні праграмы, таму на іх гэта і дзейнічае лепш. Яны ўдзельнічаюць у розных грамадскіх арганізацыях, у той час як у нас шмат што прыходзіцца рабіць з-пад палкі.

Хаця найбольшае развіццё гэты рух атрымаў у Польшчы, менавіта праз каталіцкі касцёл.

*- А як да вас ставіцца мясцовая ўлада?*

Дапамагае, хаця б хацелася большага. Зараз вось кожную сераду на прадпрыемствах праходзяць лекцыі аб папярэджанні гібелі людзей ад знешніх фактараў. Запрашаюць на іх і нашых прадстаўнікоў. Прысутнічае міліцыя, пажарнікі, урачы.

Зараз сталі ўжо даваць наш тэлефон для тых, хто мае жаданне кінуць піць. Зараз святы сталі праводзіць без алкаголю. Але ж усё-такі мне здаецца, што на нас глядзяць неяк звысока…

Праўда, зараз раённая газета стала змяшчаць наш тэлефон, а раней лічылі гэта як рэкламу. Таму, зрухі ў лепшы бок ёсць.

*- А дапамагаюць Дні цвярозасці, што праводзяцца ў раёне?*

Канечне. Калі хоць адзін чалавек прыйдзе дадому цвярозы, гэта ўжо вынік. Не ўсе ж рвануць у суседнія раёны па віно. А адзін чалавек, як правіла, цягне за сабой, як мінімум, чатырох. Гэта і жонка будзе задаволеная, дзеці ўрокі зробяць. Не трэба выклікаць міліцыю, бо ён не будзе хуліганіць, будзе цвярозы спаць, не будзе курыць у ложку, пажарнікі на выклік не паедуць, хуткую не трэба выклікаць і так далей. Адзін чалавек будзе цвярозы - і колькі дабра для іншых.

*- Ну, а што б вам хацелася б сказаць напрыканцы нашай размовы?*

Не трэба саромецца, калі ў цябе ёсць гэта праблема. Гэта звычайная хвароба, як алергія ці цукровы дыябет. Яе немагчыма вылечыць, але яе можна навучыцца кантраляваць і з ёй жыць. Дрэнна тое, што не прыходзяць да нас жонкі. Людзі саромяцца, што хтосьці знаёмы іх тут убачыць. Хаця ўсе знаёмыя і суседзі звычайна ведаюць пра гэту праблему, акрамя саміх гэтых людзей. Бо, як гэтага не хавай, гэта відаць і на вачах, і пад вачамі…

Дрэнна тое, што ўсе як бы самі па сабе. Групы - сабе, урачы - сабе, міліцыя - сабе. А тут павінны быць комплексны падыход. Трапіў чалавек у бальніцу, пракапалі яго там, накіравалі да нас у групу. І з участковымі мы хацелі б больш шчыльна супрацоўнічаць.

***- Поспехаў тады вам у працы.***

*З прадстаўнікамі групы АА «Кропка адліку» гутарыў*

*Зміцер Лупач*

# “Сярод сваіх і чужакоў яна нам ласкай матчынай…”



■ Людміла Ардынская,
*в. Радзюкі, Шаркоўшчынскі р-н*

**На старонках розных перыядычных выданняў, асабліва беларускамоўнай газеты “Звязда”, усё часцей закранаюцца пытанні адраджэння і захавання гісторыка-культурнай спадчыны, як матэрыяльнай, так і нематэрыяльнай, духоўнай: традыцый, звычаяў, абрадаў, фальклору.**

Духоўныя каштоўнасці перадаваліся на працягу вякоў ад пакалення пакаленню не толькі пры дапамозе пісьмовых крыніц, але з вуснаў у вусны. Іншыя, нідзе не занатаваныя, яны ад дзядоў і прадзедаў дайшлі да нас. І калі наступныя пакаленні не перайму ць іх ад носьбітаў-папярэднікаў, дык нашай культурнай спадчыне пагражае разбурэнне, сціранне з памяці і забыццё, што ўжо часткова і адбылося.

Шаркоўшчынская зямля здаўна была не бедная на народныя таленты. На ёй працавалі, стваралі, нястомна збіралі у сваю спадчыну для нашчадкаў песні, прымаўкі, казкі, паданні, трапныя выразы “вечны вандроўнік” Язэп Драздовіч. Апявалі у вершах родны край Міхась Машара, адсюль зрабіў першы крок у беларускае тэатральнае мастацтва народны артыст Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы Павел Дубашынскі, упрыгожвалі сваю зямлю садамі знакаміты Іван Сікора. Збіраў фальклор, займаўся этнаграфіяй малады паэт з Германавіч Міхась Райчонак, які заўчасна пайшоў з жыцця. Тут родныя мясціны пісьменніка Віктара Праўдзіна, кіраўніка аркестра народных інструментаў Генадзія Цітовіча. Усе яны – людзі з народа, талент якіх і творчае майстэрства раскрываліся не без уплыву духоўнай спадчыны продкаў.

І цяпер таленавітыя творчыя людзі, ініцыятыўныя, з актыўнай жыццёвай пазіцыяй плённа працуюць над адкрыццём і зберажэннем тых духоўных каштоўнасцяў, якія вякамі былі назапашаны продкамі.

У сярэдніх школах гарадскога пасёлка створаны фальклорныя гурткі, працуе школа мастацтваў, дзе таксама вядзецца навучанне па класе народных інструментаў – цымбалаў. Пры раённым Доме культуры створаны хор “Спадчына”, хор ветэранаў працы “Надзея”, у рэпертуары якіх гучаць беларускія сучасныя і народныя песні. Ладзяцца фестывалі, конкурсы-агляды самадзейных мастацкіх калектываў, народная творчасць не застаецца па-за ўвагай.

У Доме рамёстваў народныя майстры вырабляюць розныя нацыянальныя сувеніры з саломкі, ільну, дрэва. Адны ўзрадзілі ганчарнае рамяство, другія – ткацтва, часта праводзяцца творчыя выставы.

Бачна, што беларусы вельмі прыхільна, з вялікай цікавасцю ставяцца да сваёй духоўнай спадчыны, як і мовы, паўзабытай, для кагосьці ўжо мабыць нязвыклай. І тым, хто працуе ў галіне культуры, ідэалогіі, трэба прыкласці намаганні, каб прыўзняць, вобразна кажучы, нябачную завесу перад вачыма нашай моладзі, паказваць ва ўсёй прыгажосці, гонары, славе сваю нацыянальную гістарычную і культурную спадчыну, яе перавагу над тымі “каштоўнасцямі”, якія навязваюцца нам чужой ідэалогіяй звонку.

У многіх сельскіх Дамах культуры створаны фальклорныя гурты, клубы нацыянальнай кухні, у якіх самы актыўны ўдзел прымаюць жанчыны больш сталага ўзросту. Імкнуцца перадаць нашчадкам самабытнае, нацыянальнае, адметнае, што вякамі назапашана продкамі.



**На здымку:** удзельніцы клуба “Радзюкоўскія гаспадынькі”. *Фота з сайта www.klich.by*

Загадчыца Радзюкоўскай сельскай бібліятэкі Валянціна Абрамава аб’яднала ініцыятыўных творчых жанчын у клуб, якому далі назву “Радзюкоўскія гаспадынькі”. Мэтай дзейнасці ўдзельніцы ставяць аднаўленне ў памяці тых гістарычных падзей, якія адбываліся ў краі, лёсаў знакамітых землякоў, ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і загінулых у полымі жудаснай вайны.

Адраджэнне народных абрадаў, традыцый і перадача маладому пакаленню таксама ўваходзяць у планы клуба. Ад пажылых жанчын запісваюцца старадаўнія песні, прымаўкі, казкі, паданні.

Прадугледжваецца актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, наведванне школ, дамоў для састарэлых, сацыяльнага прытулку, дапамога і маральная падтрымка адзінокіх састарэлых, стасункі з ветэранамі працы на тэрыторыі свайго сельскага савета.

Удзельніц клуба аб’ядноўвае аптымізм, уменне знайсці выйсце з нялёгкай жыццёвай сітуацыі і падбадзёрыць іншых, пачуццё гумару, а таксама любоў да сваёй зямлі, роднага слова і песні.

Душа калектыва – Ларыса Іванаўна Шпак, духоўная настаўніца, якая вядзе за сабой, вучыць мудрасці, дае слушныя парады. За плячыма гэтай таленавітай, адоранай ад прыроды жанчыны, вялікі жыццёвы вопыт. Дзяцінства і пачатак юнацтва апаліла вайна. А потым цяжкая сялянская праца ў пасляваенныя гады разбурэння і нястачы. Бацька загінуў пры вызваленні Венгрыі. Але па жыцці заўсёды ішла з песняй. Яе вершы і песні любяць аднавяскоўцы. Ужо некалькі дзесяцігоддзяў мінула, а створаны ёй клуб нацыянальнай кухні “Груца” існуе і цяпер. На “Славянскім базары” ў Віцебску, на святочных мерапрыемствах у раёне, вобласці, нават сталіцы, госці частаваліся блінамі, спечанымі на распаленай калодзе, старадаўняй кашай з гароху і панцаку-груцай, адмысловым клінковым сырам ды іншымі нацыянальнымі стравамі.

Ларысе Іванаўне споўнілася 85 гадоў, але яна жыццялюб, піша, як і раней, вершы і песні, любіць людзей, не растаецца з песняй. Можа ў гэтым і сакрэт яе даўгалецця?

Хочацца расказаць яшчэ пра адну ўдзельніцу клуба “Радзюкоўскія гаспадынькі” Альдону Генрыхаўну Папко. Яна – сапраўдная гаспадынька. Летам патанае ў зеляніне і кветках утульны дом. Майстрыха на ўсе рукі. Перафразуючы прымаўку, можна сказаць, што яна – і шавчка, і жняя, на дудзе не іграе, але далёка чуваць, як спявае. І хлеб пячэ, і лапці пляце – няхай паглядзяць маладыя, які абутак іх прадзеды насілі. І яшчэ доўгі час валіла з воўны валёнкі. Заказаў было – не адбіцца. У жыцці лёгкай працы не шукала, трох дачок выгадавала, у людзі вывела, замуж аддала, пяцёра ўнукаў мае. Але не губляе прывабны знешні выгляд, завадатарка і запявала вакальнага калектыву “Чараўніца”. А пад настрой, як пісаў Янка Купала ў вершы “Вечарынка”, “дасць дыхту і жару, Лявоніху і польку адшпарыць”. Дасць фору маладым, на жаль, гэтых танцаў яны не ведаюць і не танцуюць.

Ускла д клуба “Радзюкоўскія гаспадынькі” ўвайшлі найбольш актыўныя жанчыны: Валянціна Абрамава, Валянціна Дзіковіч, Лілія Віткоўская, Тэрэза Странчэўская, Клёня Дулінец, Алена Маісеева, Альдона Папко, Ларыса Шпак, Галіна Казельская.

Пакуль ёсць такія жанчыны, нашу спадчыну мінуе забыццё.

“Радзюкоўскія гаспадынькі” шчыра запрашаюць усіх жадаючых.

**Завітайце да нас з песняй!**
**Будзьма разам!**

## Пракуратура Віцебскай вобласці выступіла з прапановай абмежаваць продаж спіртных напояў у перыяд хрысціянскіх пастоў

**Пракуратура Віцебскай вобласці выступіла з прапановай абмежаваць продаж спіртных напояў у перыяд хрысціянскіх пастоў. Як паведамляе Генеральная пракуратура Беларусі, гэтая ініцыятыва была абнародавана некалькі дзён таму на навукова-практычнай канферэнцыі «Умацаванне цвярозасці ў сучасным свеце». Мерапрыемства было арганізавана Віцебскім аблвыканкамам сумесна з Віцебскай епархіяй БПЦ.**

На канферэнцыі адзначалася, што атручэнне алкаголем і звязаныя са злоўжываннем спіртнымі напоямі захворванні з'яўляюцца адной з вядучых прычын смяротнасці насельніцтва. Да таго ж злоўжыванне спіртнымі напоямі з'яўляецца галоўнай прычынай учынення злачынстваў і правапарушэнняў супраць жыцця і здароўя чалавека.

У мэтах стварэння эфектыўнай сістэмы па зніжэнні ўзроўню спажывання алкаголю насельніцтвам спецыялісты лічаць неабходным акрамя прафілактычнай работы прымяняць новыя формы і метады прэвентыўнага характару.

Так, улічваючы асаблівую значнасць духоўна-маральнага выхавання асацыяльных асоб, пракуратурай Віцебскай вобласці даручана пракурорам гарадоў і раёнаў забяспечыць на месцах узаемадзеянне паміж суб'ектамі прафілактыкі і традыцыйнымі рэлігійнымі канфесіямі ў процідзеянні крыміналізацыі і алкагалізацыі насельніцтва вобласці.

*Вячаслаў Будкевіч,*
*БелаПАН*

## СБУ ў Данецкай вобласці ачоліў беларус

**Валерыя Рудніцкага на гэтую пасаду прызначыў выконваючы абавязкі прэзідэнта Украіны Аляксандр Турчынаў.**

Як паведамляе «Украінская праўда», Рудніцкі нарадзіўся ў 1962 годзе ў Мінску. Скончыў Арджанікідзаўскую вышэйшую вайскова-камандную вучэльню, служыў ва ўнутраных войсках. У чэрвені 2012 года быў прызначаны першым намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення — камандуючага Унутранымі войскамі МУС Украіны.

Папярэднік Рудніцкага ў Данецкай вобласці — Валерый Іваноў — прапрацаваў крыху больш за месяц. За гэты час узброеныя сепаратысты ўзялі пад кантроль некалькі гарадоў у вобласці.

*euroradio.fm*

## Вызначаныя даты правядзення цэнтралізаванага тэставання ў гэтым годзе

**У Беларусі вызначаны графік правядзення цэнтралізаванага тэставання па навучальных прадметах у 2014 годзе. Гэта прадугледжана адпаведнай пастановай Міністэрства адукацыі №32 ад 9 красавіка 2014 года.**

Як паведамляе прэс-служба Мінадукацыі, тэставанне па беларускай мове пройдзе 14 чэрвеня, рускай мове — 15-га, грамадазнаўстве — 17-га, біялогіі — 19-га, матэматыцы — 20-га, гісторыі Беларусі — 22-га, хіміі — 23-га, фізіцы — 24-га, сусветнай гісторыі найноўшага часу — 25-га, замежных мовах (англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай) — 27-га, геаграфіі — 28 чэрвеня. Пачатак экзаменаў у 11.00.

*БелаПАН*

# “Патрыятычны” ўздым



**Марыя Баравік,**
сябра СБП,
*г.п. Падсвілле.*

## Што б гэта значыла?..

Майдан – сцвярджэнне нацыянальнай годнасці, дамаганне прававога жыцця народу роднай тэрыторыі, доказ мужнай настойлівасці карэннай Украіны.

А “патрыятызм рускіх выдатна спалучаецца з жаданнем прасіць прытулак,” – кажа палітолаг С. Нікалюк у газеце “Новы час” у аналітычным артыкуле “У палоне культурнай матрыцы”. Аўтар дастаткова пераканаўча, з прывядзеннем падрабязных аналітычных даных паказвае прычыну падзей: “Патрыятычны ўздым (шавіністычны ўгар) адчуваюць сёння большасць расіян… дэманструюць падтрымку “палітыцы партыі і ўрада”. Адпадаюць тыя, хто не глядзіць тэлевізар і адарваныя ад усяго. “Масавая вытворчасць уяўлення людзей пра жыццё – найбуйнейшая вытворчасць… вытворчасць нумар адзін, гэта важней за нафту, газ, космас, вайну”, - лічыць культуролаг Данііл Дандурэй.

Тэлебачанне робіць “патриотический подъём” расіян. І яшчэ: паспяховая яна, гэтая вытворчасць, таму, што ідзе крок у крок з культурнай матрыцай. Аўтар артыкула спасылаецца на Закон Канстытуцыі РФ, прынятай 17 снежня 2001года (раздзел 3. арт. 65). Выходзіць, што цяперашняе забранне Крыму Расіяй не адпавядае Закону, бо без згоды дзяржавы Украіны, а толькі часткі (Крыму). “Выкананне Законаў ніколі не было моцным бокам рускай культурнай матрыцы”, - піша Нікалюк.

І не толькі “сярэднестатычны расіянін, калі ён старэйшы за чатыры гады, тарашчыцца ў “скрыню” без дзвюх хвілін чатыры гадзіны на суткі”. Тарашчыцца і беларус, у насталгіі па СССР, па тых марах у камунізм і становіцца “ўсязнаўцам”, “усяведам”, перакананым “праўдай”.

Нядаўна адбылася ў Віцебску канферэнцыя ТБМ. У самым пачатку нас анастраёвіў гурт маладых спявачак на ўкраінскай мове ў знак салідарнасці з украінскім народам, змагаром за незалежнасць і годнасць Украіны. Пасля канферэнцыі іду наведаць сваю былую школьную настаўніцу рускай мовы і літаратуры. Даведаўшыся, што мяне ў гэты дзень прывяло ў Віцебск, яна ўсклікае: “Нацыяналісты?!”.

Зразумела – ад “скрыні адхінулася”. Але тут ужо, калі б і тэлек выкінуць вон, не дапамагло б. Бо жыццё настаўніцы адкрасавалася пад уздзеяннем прапаганды, у арэоле таго пераканання. “Перад Пуцінам нам трэба стаць на калені! – з жарсцю, задыхаючыся, амаль крычыць мне мая настаўніца, -- мы прапалі б… ЕС – ужас! Рускія, украінцы і беларусы – адзін корань… Только Расія спасёт!” і г. д.

Адно ратуе нашу сувязь з настаўніцай – гэта чалавечнасць, спагада і светлы ўспамін пра тыя школьныя сустрэчы, недатыкаючыся да тэмы грамадскага жыцця, палітыкі. Развітваючыся, яна абдымае мяне, просіць не забываць. І мне шкада яе хворую, ды хочацца хутчэй на паветра. Я думаю, што ў гэтай кватэры ўсе трое няшчасныя: маці, сын і кот. У маці насталгія па былой той (праз літаратурныя ўяўленні) Расіі, хоць сама і беларуска. У сына, здольнага, хто надрукаваў у часопісе артыкул “Лічбавае тэлебачанне”, таксама глыбокая ўнутраная няўтульнасць, і бачна, няма неабходнага заробку. Паміж маці і сынам - непрыхаваны канфлікт. А мне застаецца казаць спачувальныя словы кату. Бо самы няшчасны – гэта кот, аслеплы, які пахвілінна-інтэрвальна галосіць і тыкаецца мордачкай у прадметы, сцены кватэры. І не мае выйсця з цемнаты. І мая любімая настаўніца?..

Ну, няхай знаёмка, грамадзянка Расіі, абараняе здзяйсненне Пуціна на Украіне, там Радзіма яе і пенсія выдатная. А весь карэнныя беларусы ў маім мястэчку? І з іх выяўляюцца абаронцы імперскіх апетытаў уладнай Расіі.

Дык што б гэта значыла?..




**На здымку:** роў на мяжы Украіны з Расіяй.

## У Расію пры дыктатуры?..

Памятаю час путча, як я ўкладвала вуха ў радыё – намагалася зразумець, што адбываецца. Быў нейкі страх ад недасведчанасці і чаканне яснасці. Сёння маем інтэрнэт, столькі незалежных палітолагаў, аглядальнікаў-журналістаў, якія аналізуюць падзеі, прычыны, усе гэтыя хітрасці палітыкі. А мы толькі ў тэлевізар утаропіліся. І я бяссільная скіравaць, напрыклад, сваячніцу ў нейкія іншыя крыніцы СМІ. Яна проста заглядваць туды не хоча.

Расійскай грамадзянцы не намагаюся тлумачыць нешта ў адказ на яе “моцны” зрок, што па вуліцах украінскіх ходзяць бандэраўцы “ з фашысцкай свастыкай на рукавах”. І яна гэта ўбачыла адсюль на экране тэлевізара. “Крым же был Российским! – з жарам даводзіць мне суразмоўніца, - смотрите, как сейчас все…( на слова “ўсе” – націск), смотрите: Одесса, Донбас и т. д., все же хотят в Россию…”.

Чытаю словы адэсіта Вадзіма Ланды: ”На ўкраінскім паўднёвым усходзе многія ўчапіліся за ідэю далучэння да Расіі ў асноўным праз тое, што ўбачылі ў Пуціне лідара з дзяржаўным мысленнем. Але ўсё правяраецца практыкай. На практыцы ж у Расіі жывуць некалькі буйных гарадоў…і Чачня, якую тушаць грашыма. Астатняя правінцыя ледзь ліпіць. Можна пагадзіцца, што ўкраінская правінцыя таксама гібее, але ў чым тады сэнс з аднаго “кепска” пераходзіць у іншае?

Адэсіт кажа, што для мыслячых людзей пераход нясе “нешта значна горшае, бо Расія жыве пры дыктатуры. А мыслячы чалавек ва ўмовах дыктатуры… не пладаносіць, скажам так”.

Дык для чаго пераходзіць? А гэта адбываецца вельмі проста, калі цябе атачаюць аўтаматчыкі-апекуны… А рэферэндум? Ці не такі, як і “праўдзівыя” выбары? Ды і ўсё іншае, што мы прымаем за праўду. Адэсіт Юры Жаброўскі сведчыць: “Цярпець не магу, дарэчы, моўнае пытанне – яно высмактанае з пальца і не мае ніякага значэння, апроч як інструмент атрымання балаў у палітычнай барацьбе. Не тое, што нейкага ўшчамлення правоў, я, нават, дробных нязручнасцяў за ўсё жыццё не адчуваў праз сваю рускамоўнасць” (“Наш час” №11, 21 сакавіка 2014 г.).

Можна сказаць малітву, каб прыйшла выразнасць светабачання, каб зарыентавацца ў з’явах жыцця. Дык жа Бог дапамагае таму, хто шукае, дамагаецца праўды.

# Такая атрымалася святочная юшка

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Перадсвяточны тыдзень для супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі выдаўся напружаным. Вясновае цяпло, неяк неўзаметку, за некалькі дзён змяніла прыроду: з'явіліся першыя лісточкі, зазеленела трава, усё ажыло. Прырода рыхтавалася да самага вялікага гадавога свята, толькі не для ўсіх нашых грамадзян гэтае свята светлае. Ёсць яшчэ людцы, якія жадаюць экстрыму, злавіць у мутнай вадзіцы да свята рыбкі, што з гэтага атрымліваецца наглядна прадэманстравана на прыкладзе двух жыхароў г. Паставы.

Уноч з 18 на 19 красавіка 2014года супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі знаходзіліся ў чарговым рэйдзе па папярэджанні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Прыбыўшы каля 20 гадзін вечара на возера Кавалькі, што паблізу г. Паставы, інспектары арганізавалі назіранне. І вось пад покрывам цемры дзве чалавечыя постаці з'явіліся на беразе, хутка напампаваўшы лодку, людзі накіраваліся на ваду, нягледзячы на забарону выкарыстання лодак у сувязі з нераставым перыядам. Інспектарам ўсё стала зразумела, для чаго мужчыны выплылі на возера ў такі позні час. Як толькі аматары незаконнай рыбалкі выплылі на бераг, нібы з-пад зямлі з'явіліся інспектары міжрайінспекцыі і затрымалі аматараў незаконнай рыбалкі. 4 лесачныя стаўныя сеткі і незаконна здабытая рыба, што знаходзілася ў гэтых сетках, толькі ўмацавалі здагадку інспектараў – двое жыхароў раённага цэнтра займаліся браканьерствам. Вынік усіх дзеянняў: складзеныя адміністрацыйныя пратаколы, канфіскаваныя сеткі, лодка і чаканне рашэння раённага суда аб пакаранні.



Вось такая атрымалася святочная юшка.

Не голькі спыненнем браканьерства займаецца міжрайінспекцыя, але і ажыццяўляе кантроль за працай службовых асоб па выкананні прыродаахоўнага заканадаўства. Так, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты кіраўнік адной з гаспадарак раёна, за допушчаныя факты скіду сцёкавых водаў у возера Алойзберг, што ў г.п. Падсвілле.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі заклікаюць грамадзян, неабыякавых да захавання прыроды, аказаць дапамогу ў барацьбе з браканьерствам.

Тэлефоны інспекцыі «гарачая лінія»: 8-02156-28670, маб. МТС: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49

## Мітрапаліт Павел: Прычына падзей, што адбываюцца ва Украіне, – «я сёння ва ўладзе і ўсё мне»



Прычына падзей, што адбываюцца ва Украіне, грунтуецца на прынцыпе: «Я сёння ва ўладзе і ўсё мне», заявіў у эфіры праграмы «Контуры» тэлеканала ОНТ вечарам 20 красавіка мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Павел. «Пажаднасць, пажаднасць плоці, усё мне, толькі адзін я», — дадаў кіраўнік БПЦ.

Паводле яго слоў, Украіна сёння для ўсяго свету з'яўляецца яркім паказчыкам, «да чаго можа прывесці варожасць, нянавісць, пажаднасць вачэй, пажаднасць плоці».

«Сёння не толькі ўкраінцы вінаватыя ў тым, што адбываецца. Вінаватыя і тыя, хто падбухторвае гэту краіну і гэты народ, хто яе падагравае фінансамі, хто яе падагравае зброяй, хто яе падагравае ідэалогіяй», — сказаў мітрапаліт Павел. Ён заклікаў усіх да сумлення, бо ўсе паўстануць перад Богам на Страшным судзе. «Вось тады і адкрыецца: хто фінансаваў, хто падтрымлівае, хто падбухторваў», — адзначыў кіраўнік БПЦ.

***Вячаслаў Будкевіч,***
*БелаПан*

